# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 34 (965) ГОД XIX БЕЛАСТОК 25 ЖНІЎНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.


## Маладосць горада



Гайнаўка — малады горад, ёй усяго каля 60 гадоў.

Цяжкім было жыццё рабочых у Гайнаўцы пры старой Польшчы. Англійскія фірмы эксплуатавалі лес і рабочых. Цяжка было ў той час рабочым у краіне знайсці працу, дык у Гайнаўку прыязджала многа людзей з усёй Польшчы. І тут працавалі яны ў Белавежскай пушчы пры вырубцы, вывазе і пагрузцы драўніны. Не было дзе жыць, бо ніхто рабочым не рыхтаваў кватэр. Таму людзі пачалі на ўласную руку будаваць сабе хаты. Дамы рабілі з аблядраў і трацін. І так радзілася пралетарская Гайнаўка. Яшчэ і цяпер можна ў Гайнаўцы знайсці такія даўнейшыя домікі каля тартаку ці хімічнай.

Хоць народ быў з розных бакоў Польшчы, яднала іх нядоля і бяда, у якой усе жылі. Паўставалі тут палітычныя партыі, як Камуністычная партыя Заходняй Беларусі, Польская сацыялістычная партыя — Лявіца (ППС-Лявіца). Яны заклікалі рабочых да барацьбы з капіталістамі. У Гайнаўцы ў той час адбывалася многа забастовак і першамайскіх дэманстрацый. Змагаліся рабочыя Гайнаўкі за лепшую будучыню і не адзін з іх аддаў сваё жыццё, каб будучым пакаленням было лепш жыць.

Пасля вызвалення ў 1944 годзе рабочыя Гайнаўкі адразу прыступілі да працы. Стараліся ўвесці ў строй заводы. Першымі пачалі працу тартак — сёння званы Драўнінным прадпрыемствам лясной прамысловасці (ЗДПЛ), лясныя чыгункі і хімічная.

Вялікая разбудова Гайнаўкі наступіла ад 1954 г. У гэтым годзе былі прызнаны Гайнаўцы правы павятовага горада. Ды адразу не было дзе пасяліцца павятовым уладам і яны знаходзілі прытулак у старых прыватных дамах. За 15 год — ад 1955 да 1970 у Гайнаўцы пабудавана многа адміністрацыйных і прадукцыйных будынкаў. Цяпер цяжка ўспомніць, калі што будавалася. Адно пэўнае, што Гайнаўка змянілася да непазнакі. Па адным толькі вакзале ПКП можна яшчэ пазнаць старую пасляваенную Гайнаўку.

Разбудаваўся былы тартак, пабудаваны мэблевы завод. Разбудавалася хімічная, дзе апрача прадукцыйных галяў, былі пабудаваны сацыяльныя будынкі і дом культуры „Гурнік“. Паўстаў новы завод — Гайнаўскае прадпрыемства лясных машын (ГЗПМЛ), які ўсё яшчэ разбудоўваецца. Акруговая малочная спулдзельня пабудавала новы малочны завод, дзе перапрацоўваюць малако з усяго павету. Былі пабудаваны шпіталь і сучасная медлабараторыя.

Пасля вайны ў павеце жыло многа інвалідаў і, каб стварыць ім лепшыя ўмовы жыцця, быў створан кааператыў інвалідаў „Постэмп“. Для рабочых яго пабудаваны цяпер новы прадукцыйны будынак. Працуюць тут на дзве змены і вырабляюць тавар, які часткова ідзе на экспарт.

Зусім у чыстым полі пры Бельскай вуліцы пабудавалася і пасялілася павятовае праўленне мясцовых дарог, якое зрабіла шмат дарог у павеце. Пабудаваны новыя дамы для павятовага камітэта ПАРП, камендатуры міліцыі, пошты. Была арганізавана ў горадзе жыллёвая спулдзельня, якая будуе ўсё больш новых жылых дамоў.

Ва ўсім цяперашнім Гайнаўскім павеце да вайны не было аніводнай сярэдняй школы. Цяпер у Гайнаўцы два ліцэі (адзін беларускі), тэхнікум і шмат прафесіянальных школ.

Ніводзін рабочы не будуе цяпер сабе доміка з трацін, але многія будуюць двухэтажныя мураваныя дамы з бягучай вадой і ацяпленнем.

Вялікія змены бачым не толькі ў горадзе. Бачым іх у кожнай вёсцы, мястэчку, у кожнай сям'і. 30 год не змарнавалі мы. Наступныя гады будуць яшчэ лепшыя. Мы ў гэта шчыра верым.

**Эдмунд Вайсковіч**

Фота Я. Цялушэцкага

## Праз тыдзень у „Ніве“

**Цярністы шлях друку Заходняй Беларусі ● Дні культуры рабочай Гайнаўкі ● Святкаванне 30-годдзя ПНР у Беларусі ● Новыя творы „белавежцаў“ ● Інкубатар будаўнікоў ● Партызаны аднаго сяла ● Весткі з Каянкі, Нараўкі, Ляўкова, Рыбакоў, Бельска, Паўлаў, Скупава, Кузавы, Крывяціч, Ліпін, Вітава, Кожына і інш. ● Песня з рэпертуару групы „і“ „Radość o poranku“.**

З песнямі насустрач XXX-годдзю ПНР



**КВАРТЭТ З ГАРКАВІЧ**

**Вакальны калектыў з Гаркавіч Сакольскага павету — удзельнік сёлетняга цэнтральнага песеннага агляду БГКТ у Беластоку. Фота А. Карпюка.**




„Гаспадарку 9 га, меліяраваныя паша і сенажаць, сад, электрычнасць, зручны даезд, блізка школа — прадам па прычыне старасці“.

Такія і падобныя да іх аб'явы раз-пораз паяўляюцца ў газетах. Мы выбралі адну з 1968 года і паехалі па ўказанаму ў ёй адрасу: вёска Кабылянка, гміна Міхалова, Беластоцкі павет.

Не, не была гэта гаспадарка найлепшай у ваколіцы: пясчаная зямля V-VI класа ў трох кавалках, луг, хоць і меліяраваны, — у чатырох ды далекавата. Паша, праўда, блізка, каля хаты, але забалочаная ды зарослая альшынаю. Не лепш з будынкамі — цесныя ды валяцца са старасці. Ранейшыя гаспадары — старыя людзі — прадавалі ўсё падрад: з дабыткам, прыладамі і нават мэбляю, а самі ехалі ў горад да дзяцей, што пасля заканчэння вышэйшых школ ужо працавалі на дзяржаўных пасадах. І гэты васьмігектаравы хутар выдаўся **Мацею і Валянціне Варона** шмат выгаднейшы ад сціснутай у роднай вёсачцы Бахуры, што ў Шымкаўскай гміне, вузенькай іхняй сядзібы ды пакрамсанай у мноства кавалкаў гаспадаркі. Што ні кажы, Бахуры — гэта глухі куток, а тут паблізу малачарня, гмінная спулдзельня, цагельня, мястэчка, а для дзяцей — пад бокам агульнаадукацыйны ліцэй і школа механізацыі сельскай гаспадаркі. Падумалі, разважылі, дамовіліся, спрадалі ўсё ў Бахурах, крыху запазычыліся і набылі хутар, а ў ім — конік, дзве кароўкі, крыху свіней, курэй. Такі быў пачатак.

— Адразу надта ж цяжка было, — расказвае **Валянціна Варона**. — Проста не было за што рук зачапіць. Чацвёра малых дзяцей, да работы адно мы ўдваіх з мужам. Спачатку думалі жыць так, як папярэднія гаспадары: апрацоўваць толькі сваю зямлю, гадаваць дзветры каровы, прадаваць у год па некалькі кормнікаў, падзарабляць крыху ў мястэчку. Але дзе тут! Выдалася снежная зіма, і пад цяжарам снегу рухнуў спарахнелы дах на хляве. Шчасце, што кароў не падушыў. Глядзім — у хаце бэлек згніўшы асоўваецца. Што ж, слупком падперлі ўнутры хаты. Ну і дзе ж тут можна па-старому ды па-ранейшаму!? Давай мы будаваць новы мураваны хлеў і за гадоўлю брацца. Дасталі крыху пазыкі, самі грош прыціснулі і праз два гады, як блёк, абора на месцы старых хлявушкоў стала. А потым за хату ўзяліся. Калі ўсё парадкам пойдзе, на будучы год у новы мураваны дом, з трох пакояў, кухняй і ваннай, увойдзем. Да гэтага часу на абору ды новы дом мы выдаткавалі найменш чатырыста тысяч злотых.

— Адкуль такія грошы?

— Бачыце, мы з мужам свае працы не шкадуем, а калі чалавек не лянуецца і гаспадарыць з галавою... Трымаем цяпер восем дойных кароў і сем штук маладняку. Толькі за малако маем у месяц 10-11 тысяч злотых. Малако кантрактуем, у мінулым годзе даставілі яго 26 270 літраў. Ялаўнік адкормліваем і таксама прадаем. Гадуем і свіней. Цяпер у хляве маем 15 штук, а ўжо прадалі ў гэтым годзе 18 кормнікаў. Збожжа і бульбу таксама кантрактуем. У прошлым годзе прадалі дзяржаве 6 тон збожжа, 12 цэнтнераў грэчкі і 17 тон бульбы. Пэўна, на ранейшых васьмі гектарах мы б не разгуляліся. Пару год таму назад прыкупілі мы паўтара гектара. Але гэта не ўсё, наймаем ад людзей або бяром за падаткі дзе толькі які-колечы вольны кавалачак зямлі ці луга паявіцца ў ваколіцы. Цяпер апрацоўваем каля 14 гектараў. Свой луг абярнулі на пашу, а ранейшыя карчы выкарчавалі, асушылі, засеялі, давялі да парадку.

— А што добрага ў сям'і?

— Дачка Ліля пасля пачатковай школы ў Міхалове закончыла прафесіянальную мясцовую школу ў Беластоку, выйшла замуж і цяпер працуе ў Беластоцкім мясным камбінаце. І вяселле ёй, як належыцца, справілі, і памаглі. А цяпер мае дастаць кватэру ў жыллёвым каапетатыве. Падкінем крыху грошай на мэблю. Сын Мікалай закончыў Міхалоўскі агульнаадукацыйны ліцэй і паступіў у Ветэрынарную студыю ў Ломжы. Міколка ў нас — найбольшы памочнік у гаспадарцы, але

(Працяг на стар. 4)



## Карэспандэнцыя з Мінска

# МІНСКІ РАДЫЁТЭХНІЧНЫ ІНСТЫТУТ

Кожную раніцу тысячы юнакоў і дзяўчат уваходзяць у прасторныя залы і аўдыторыі Мінскага радыётэхнічнага інстытута, які быў заснаваны ў 1964 годзе. Інстытут рыхтуе інжынераў па спецыяльнасцях: „Радыётэхніка", „Канструіраванне і вытворчасць радыёапаратуры", „Канструіраванне і вытворчасць электронна-вылічальнай апаратуры", „Паўправаднікі і дыэлектрыкі" (спецыялізацыя „Мікраэлектроніка"), „Шматканальная электрычная сувязь", „Аўтаматычная электрычная сувязь", „Аўтаматыка і тэлемеханіка" (спецыялізацыя „Схемы і сістэмы аўтаматыкі і тэлемеханікі"), „Электронныя вылічальныя машыны", „Аўтаматызіраваныя сістэмы кіравання" (спецыялізацыя „Праектаванне і эксплуатацыя АСУ").

За кароткі тэрмін інстытут стаў адным з вядучых тэхнічных вузаў Беларусі. У вучэбна-педагагічнай і даследчай рабоце заняты акадэмікі і члены-карэспандэнты Акадэміі навук БССР, дактары і кандыдаты навук, прафесары і дацэнты.

Гонарам інстытута з'яўляецца добрая матэрыяльна-тэхнічная база для правядзення вучэбнай, навукова-даследчай і выхаваўчай працы. Звыш ста лабараторый абсталявана сучаснымі прыборамі, навейшымі электроннымі вылічальнымі машынамі, бібліятэкамі і чытальнымі заламі.

Будучы вучоны даследчык, інжынер-вынаходнік пачынаецца са студэнцкай лаўкі. Таму ў вузе створаны ўсе ўмовы дзеля таго, каб з кожным годам павялічваўся лік студэнтаў у навуковых гуртках, паколькі праца ў навуковых гуртках прывівае студэнтам навыкі ў правядзенні самастойных доследаў, вучыць творча выкарыстоўваць атрымліваемыя веды.

Навуковыя працы і канструктарскія распрацоўкі студэнтаў штогод прадстаўляюцца на рэспубліканскія і ўсесаюзныя агляды-конкурсы, экспануюцца на многіх выстаўках.

Вялікая ўвага прысвячаецца сувязі студэнцкіх навуковых даследаванняў з вытворчасцю. Інстытут вядзе навуковыя працы ў галіне радыётэхнікі, электронікі, вылічальнай тэхнікі і цесна звязан з прамысловымі прадпрыемствамі Мінска. З гэтай мэтай ствараюцца студэнцкія канструктарскія трупы на прадпрыемствах, дзе яны атрымліваюць першыя навыкі самастойнай эксперыментальнай працы.

У вузе пастаянна праводзіцца работа па ўмацаванню здароўя і фізічнаму развіццю студэнтаў. Больш тысячы з іх удасканальваюць сваё майстэрства па дваццаці відах спорту. З імі займаюцца вопытныя выкладчыкі, вядомыя спартсмены, сярод якіх заслужаны майстар спорту, трохкратны чэмпіён Алімпійскіх гульняў, семікратны чэмпіён свету Аляксандр Нядзведзь.

Баскетбольная каманда „РТІ Мінск" выступае ў ліку дванаццаці мацнейшых каманд Савецкага Саюза. Яна з поспехам адстойвала гонар савецкага спорту на міжнародных турнірах у Балгарыі, ГДР, Аўстрыі, Ліване, Польшчы. У 1970 годзе каманда была чэмпіёнам СССР сярод студэнтаў.

Інстытут мае комплекс пляцовак для гульняў, веласіпедную і лыжную базы, стадыён для вучэбных заняткаў, закрыты плавальны басейн, добрыя залы для заняткаў спартыўнымі гульнямі, гімнастыкай, барацьбой, цяжкай атлетыкай.

Шырокай папулярнасцю сярод студэнтаў карыстаецца радыёспорт. Калектыў кароткахвалёвай радыёстанцыі вуза з'яўляецца прызёрам многіх усесаюзных і міжнародных спаборніцтваў радыёаматараў і чэмпіёнам Беларусі па кароткахвалёвай радыёсувязі. Ён устанавіў больш 40 тысяч сувязей з радыёаматарамі ўсіх кантынентаў свету. Студэнты адзначаны шматлікімі дыпломамі шэрагу краін Еўропы, Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі, Азіі і Афрыкі. Радыёспартсмены актыўна займаюцца канструктарскай работай. Іх распрацоўкі неаднаразова дэманстраваліся на выстаўках.

Многія студэнты займаюцца ў гуртках мастацкай самадзейнасці. Дзесяткі прадпрыемстваў горада, а таксама працаўнікі вёскі знаёмы з танцавальным, вакальным і многімі іншымі відамі самадзейнага мастацтва інстытута.

У летні перыяд студэнцкія будаўнічыя атрады выязджаюць на навабудоўлі нашай краіны, праводзяць таксама паходы па цікавейшых месцах Беларусі, па шляхах баявой і працоўнай славы бацькоў, па маляўнічых месцах сваёй Айчыны.

За перыяд існавання інстытута падрыхтаваны значны атрад маладых спецыялістаў, заняўшых дастойнае месца ў радах інжынерных кадраў многіх прадпрыемстваў Савецкага Саюза.

Тэкст і фота **В. Казлова**



*Лабараторыя тэлемеханікі.*

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 25.VIII.** 7.10 Tech. Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdrowie. 8.50 Pr. dnia. 8.55 Pożegnanie z Petersburgiem — film fab. radz. 10.30 Ex libris. 10.40 Koncert Niedzielny. 11.15 Klub Sześciu Kont. 12.00 Dziennik. 12.20 Pr. wiejski. 12.35 Festiwal Zesp. Polonijnych. 13.05 Nie tylko dla pań. 13.35 Rep. ze spektaklu balet. „Królewna Śnieżka" i pracy Szkoły Balet. w Gdańsku. 14.05 Radar. 14.20 Studio Muz. Rozr. 14.50 Los. Toto — Lot. 15.05 Wyższe uczelnie. 15.20 My — 74. Rozgrywki finałowe. 16.00 Wszystko za wszystko — K. Baranowski. 17.15 Estrada Poetycka. 17.25 Paryska taksówka — film franc. 18.20 Sport. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Sopot 74 — Koncert laureatów i koncert galowy. 22.35 Sport.

**Poniedziałek 26.VIII.** 16.10 Pr. dnia. 16.15 Oferty. 16.30 Dziennik. 16.40 Echo stad. 17.05 Teleferie. 18.15 Kur. Biał. 18.30 Śpiewa Maria Olkisz. 18.45 Kr. Warsz. i Maz. 19.05 Etiuda poetycka. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: E. Caldwell „Lipcowe tarapaty". 21.40 Krakowskim targiem. 22.10 Gra Grupa „Graminc". 22.30 Dziennik.

**Wtorek 27.VIII.** 9.00 Poranek Tel. Najmł. 10.05 Siedem romansów donii Juanity — film NRD — odc. I. 11.00 Paryska taksówka — film franc. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Warszawskie tango. 17.10 Spacerkiem po kinach. 17.40 Dla młodzieży. 18.10 Kr. Warsz. i Maz. 18.30 Będą tańczyły topole i wierzby. 19.10 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Siedem romansów donii Juanity — film NRD — odc. I. 21.15 Sport. 21.25 Christ Doerk — recital pios. 21.50 Interstudio. 22.20 Dziennik.

**Środa 28.VIII.** 10.00 Biały ptak z czarnym znamieniem — film fab. radz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Film balet. radz. 17.00 Klub Miłośników Sztuki. 17.35 Los. Mał. Lot. 17.45 144 przeboje. 18.35 Kr. Warsz. i Maz. 18.55 Z 7 anten. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Biały ptak z czarnym znamieniem — film fab. radz. 21.55 Sport. 22.05 Spotkanie z pisarzem — Zofia Posmysz. 22.30 Blachownia. 23.00 Dziennik.

**Czwartek 29.VIII.** 9.00 Poranek Tel. Najmł. 10.05 Al Capone i inni. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Pr. TV Radz. 17.00 Teleferie. 18.10 Kr. Warsz. i Maz. 18.30 Reportaż. 19.00 Test — Sł. Ekon. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Al Capone i inni. 21.10 Sport. 21.20 Czym żyje świat. 21.50 Spotkanie z Karolem Gottem. 22.30 Dziennik. 22.45 Inf. — Tow. — Prop.

**Piątek 30.VIII.** 10.00 Janosik. 10.45 Zielona kareta — film fab. radz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Pr. folklor. 17.05 Wych. fiz. receptą na zdrowie. 17.30 Studio Wakac. Tel. Mł. 18.05 Kr. Warsz. i Maz. 18.25 Pr. pop.-nauk. 19.10 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Janosik. 21.05 Panorama. 21.45 Sport. 21.50 Teatr TV: T. Gajcy „Homer i orchideą". 22.55 Dziennik.

**Sobota 31.VIII.** 9.00 Poranek Tel. Najmł. 10.05 Westerplatte — film fab. pol. 15.40 Pr. dnia. 15.45 Pr. I prop. 16.10 Red. Szk. zapowiada. 16.30 Dziennik. 16.40 Przepłynąłem Kanał La Manche — film dok. CSRS. 17.35 Szare na złote. 18.00 Eugenia Umińska. 18.35 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Westerplatte — film fab. pol. 22.10 Nie odjeżdżaj ode mnie. 22.40 Dziennik. 23.00 Sport. 23.15 Jug. pr. rozr.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 23.VIII** — 14.50 Pr. dnia. 15.30 Film dla dzieci. 20.35 Boks. Mistrzostwa świata.

**Sobota 24.VIII** — 10.15 Film fab. 12.00 Dla dzieci 13.25 Filmy animowane. 14.05 W świecie zwierząt. 16.00 Hokej. Finałowe spotkanie o puchar Europy. 18.15 Śpiewa D. Hnaciuk. 21.00 Dla amatorów operetki.

**Niedziela 25.VIII** — 7.00 Pr. dnia. 11.30 Z wizytą B. Czyrkow. 13.00 Koncert życzeń. 13.40 Panorama międzynar. 14.10 Mistrzostwa Europy w pływaniu. 14.30 Filmy anim. 15.00 Klub filmowy. 16.15 Boks. Mistrz. świata. 16.40 Film fab. 19.30 Koncert.

## КІНО

**Białowieża** Mrowisko — węg. 27—28.VIII. Śledztwo skończone, proszę zapomnieć — włosk. 29.—30.VIII. Sindbal — węg. 31.VIII.—1.IX.

**Czeremcha** Oto jest głowa zdrajcy — angl. 27—28.XIII. Ślub bez obrączki — czes. 31.VIII.—1.IX.

**Czyże** Serafino — włosk. Tropiciel śladów — rum. 28.VIII.—1.IX.

**Dubicze Cerkiewne** Front wyzwolenia — pol. El Dorado — USA 28.VIII.—1.IX.

**Gródek** Janosik — pol. 31.VIII.—1.IX.

**Kleszczele** Spragniona miłości — bułg. 27—28.VIII. Młynarczyk i kotka — NRD 29—30.VIII. Nie ma mocnych — 31.VIII.—1.IX.

**Michałowo** Kolumna Trojana — rum. 27—28.VIII. Nieszczęście Alfreda — franc. 29—30.VIII. Ciemna rzeka — pol. 31.VIII.—1.IX.

**Mielnik** Białe czaple — bułg. 27—28.VIII. Arcymistrz — radz. 29—30.VIII. Lekarstwo na miłość — pol. 31.VIII.—1.IX.

**Milejczyce** Cyrk straceńców — USA 27—28.VIII. Po drugiej stronie słońca — węg. 29—30.VIII. Echo dawno minionych dni — rum. 31.VIII—1.IX.

**Narew** Pierwsze dni — pol. Banda Asa Kier — radz. 28.VIII.—1.IX.

**Narewka** Królowa Dzikiego Zachodu — franc. Sąsiedzi — pol. 28.VIII.—1.IX.

**Nurzec** Jestem niewiernym mężem — franc. 27—28.VIII. Czyste ręce — rum. 29—30.VIII. Nie będę cię kochać — pol. 31.VIII.—1.IX.

**Rajsk** Śledztwo skończone, proszę zapomnieć — włos. Wykryć szpiega — radz. 28.VIII.—1.IX.

**Suchowola** Nie ma mocnych — pol. Weronika — rum 28.VIII.—1.IX.

## ФРОНТАМ ДА ВЁСКІ

# Перадача дзяржаве гаспадаркі за грашовыя сплаты

Селянін можа перадаць дзяржаве за заплату частку зямлі або цэлую гаспадарку, калі не мае яшчэ права на пенсію (г.зн. мужчыне не споўнілася 65, а жанчыне 60 год) або не з'яўляецца ён інвалідам. Частку зямлі можа прыняць дзяржава толькі ва ўмовах, калі яна дае магчымасць весці таварную прадукцыю.

Грашовыя сплаты ўстанаўліваюцца паводле цэн, устаноўленых у законе аб продажы дзяржаўных сялянскіх зямель. Адлічваюцца пры гэтым належнасці дзяржавы і дзяржаўных і грамадскіх прадпрыемстваў, звязаных з гаспадаркай або яе часткай, якую пераймае дзяржава.

Калі вартасць нерухомай маёмасці, якую прымае дзяржава, меншая, чым 50 тысяч злотых, то грошы выплачваюцца на працягу трох месяцаў ад таго дня, калі пастанова аб перадачы нерухомай маёмасці стала праваможнай. Пры вартасці нерухомай маёмасці, вышэйшай чым 50 тысяч злотых, падвышка выплачваецца ў гадавых ратах не большых, чым 50 тысяч зл. у год.

Пастанова аб перадачы дзяржаве сельскай гаспадаркі за грашовыя сплаты асабліва карысная для сялян, якія пераходзяць на работу не ў сельскай гаспадарцы. Селянін, які перадаў дзяржаве гаспадарку за сплаты, а потым працаваў прынамсі пяць год, можа атрымаць пенсію па старасці, калі мае адпаведны ўзрост — мужчыне 65, а жанчыне 60 год. Да часу, які патрэбны да атрымання пенсіі па старасці, улічваецца праца ў сельскай гаспадарцы пасля таго, як споўнілася селяніну 16 год.

Напрыклад, селяніну споўнілася 56 год і перайшоў ён працаваць на фабрыку, а гаспадарку перадаў дзяржаве за грашовыя сплаты. Да атрымання пенсіі па старасці неабходна прынамсі 25 год працы і ўзрост 65 год. Селянін з нашага прыкладу, калі будзе мець 65 год, будзе мець усяго 9 год працы на фабрыцы і мог бы атрымаць толькі інвалідную пенсію, калі б былі да гэтага ўмовы. Пенсія гэта значна ніжэйшая ад пенсіі па старасці. У нашым выпадку селяніну залічыцца праца ў сельскай гаспадарцы ад 16 год г.зн., аж 40 год. Ён атрымае пенсію па старасці так, як іншыя рабочыя яго фабрыкі.

Дзяржава, прымаючы сельскую гаспадарку за грашовую сплату, адлічвае ад яе вартасці даўгі, звязаныя з гаспадаркай, а належныя дзяржаве, дзяржаўным прадпрыемствам, а таксама кааператывам і сялянскім гурткам. Дзяржава разлічваецца з кааператывамі і сялянскімі гурткамі. За даўгі, належныя прыватным асобам, дзяржава не адказвае. Толькі ў выпадку, калі забавязанні забяспечаны іпатэкай, дзяржава належныя селяніну грошы складае да судовага дэпазіту.

**В. Склубоўскі**

**З'ЕЗД ВЫПУСКНІКОЎ БЕЛЬСКАГА БЕЛАРУСКАГА ЛІЦЭЯ**

# Сустрэча ў І сакратара ПК ПАРП

І сакратар Павятовага камітэта ПАРП у Бельску Аляксей Лазоўскі і начальнік павету Дзмітры Ігнацюк прынялі прадстаўнікоў арганізацыйнага камітэту І з'езду выпускнікоў Бельскага беларускага ліцэя, які адбудзецца 28—29 верасня гэтага года ў Бельску. І сакратар і начальнік цікавіліся праграмай з'езду, колькасцю ўдзельнікаў, падрыхтоўкай да яго. Абяцалі падтрымку і выказалі пажаданні, каб з'езд гэты быў плённы і дружны, каб стаў важнай падзеяй у жыцці горада і павету. Абяцалі таксама быць на з'ездзе, а на другі дзень (29 верасня) паводле ўзгодненай праграмы яны сустрэнуцца з выпускнікамі на дыскусіі. Як падкрэсліў І сакратар А. Лазоўскі, хочуць пачуць як найбольш прапаноў і ўваг, карысных для далейшай працы і далейшага развіцця павету.

Сустрэча адбылася ў вельмі добразычлівай атмасферы.

☆

Запрашаем на з'езд усіх выпускнікоў і выхаванкаў Беларускага ліцэя з усіх год існавання гэтай школы і прыпамінаем, што трэба ўплаціць на пошце 300 зл. на конта: PKO Oddz. Bielsk Podl. 140-9-264.

Грошы можна плаціць таксама непасрэдна ў канцылярыі ліцэя ў Бельску вул. Каперніка 4. (вл)



B.Z.Graf. zam. 2193 O-3

**КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК**

# Андрыянкі

Вялікае сяло ў шасці кіламетрах на поўдзень ад Боцькаў, пры шашы Бельск-Сямяцічы. Належыць да гміны Боцькі Бельскага павету. Гаспадарак 120 і 546 жыхароў.

**Андрыянкі** — тыповая вёска-вуліцоўка, цягнецца на якіх паўтара-два кіламетры з усходу на захад сярод палёў і лугоў. Назвы палеткаў: **Загароды, Загуменне, Міжыгрушы, Новінкі, Пудвыгоново, Рудаўка;** лугоў: Біеле, **Купіна, Ясыэнькі;** лясоў: **Залеўшчына, Носіха;** рэчак: **Нурэць і Рудаўка.**

Некаторыя прозвішчы сялян, што здаўна тут жывуць: **Барысюк, Васілюк, Ваўранюк, Галіцкі, Главацкі, Дэмчук, Дэмянюк, Зарэмбюк, Кавальчук, Каптэвіч, Тачынскі, Якімюк, Ярашэвіч.**

Сама назва **Андрыянкі** патранімічнага характару, паходзіць ад уласнага імя „Андрэй“ (М. В. Бірыла ў „Беларускай антрапаніміі“ (Мінск 1966) натуе сучаснае беларускае прозвішча **„Андрыянец“** і выводзіць яго ад слова „Андрэй“). Вёска была **паншчыннай,** належала да суседняга двара Андрыянкі.

У памяці старажылаў — **Андрэя Кавальчука,** 77 год, і **Марфы Кавальчук,** 74 гады, — захаваліся звесткі, што яны чулі ад сваіх дзядоў і бацькоў, не толькі пра адрабляннe паншчыны, але і пра **першую ноч,** якая належалася пану, калі прыгонная дзяўчына выходзіла замуж. У святаянскую (купалаўскую) ноч **чараўніцы** выходзілі за сяло на выган, цягалі плахтаю па траве і гэтым адбіралі каровам малако.

У асаблівай пашане тут быў калісьці **хлеб.** Селянін станавіўся на свежаўзаранай раллі на калені, гаварыў малітву, хрысціўся і толькі тады пачынаў сеяць. Сеялі тут не з сявенькі (каробкі), але з **полкі.** Гэта быў трохкутны плат палатна, яго двума канцамі падпярэзваўся селянін, а трэці трымаў у руцэ. Пасеяўшы першы кавалак, гаспадар бераг свайго поля **высцілаў** саломай. Вясною, на **Юрыя** (6 мая), усё сяло рабіла **абход** азімага поля. Кожная сям'я выбірала на сваім палетку кавалак найбуйнейшага жыта, старэйшыя **качалі** па ім **каравай,** а дзеці і моладзь самі **качаліся,** спявалі **веснавыя** песні, засцілалі абрус, часталіся, а, пад'еўшы, косці, шкарлупкі ад яек і крышынкі хлеба **закопвалі** ў жыта. Жалі сярпамі, жмені клалі на **пасы** (пярэвяслы), пасы вязалі (скручвалі) **крэмпольцам.** Снапы ставілі ў **дзесяткі** і **ляшкі;** дзесятак — дзевяць састаўленых снапоў, накрытых дзесятым, разламаным на шапку: ляшак — дзевяць снапоў, накрытых трыма снапамі. Адзін жнец нажынаў за дзень капу (60) снапоў. Калі канчалі жаць жыта ці азімую пшаніцу, ставілі на беразе палетка **кветку.** Дзеля гэтага звязвалі жменю нязжатых сцяблін, высока зрэзвалі каласкі, а на іх месца ўтырквалі кветкі, арабіну. Зямлю між сцяблінамі выполвалі, у сярэдзіне засцілалі кавалачак **палатна** і клалі на яго кусочак **хлеба.** Дажынкі спраўлялі толькі тады, калі ўсё азімае і яравое збожжа было зжата. Малацілі **цапамі.** Часткі цэпа: **цапільна** і **біяк,** біяк змацоўваўся з цапільнам **вужоўкай** і **вязукамі.** Ад трэцяй гадзіны раніцы і да позняй ночы адзін малацебшчык мог абмалаціць капу снапоў. Збожжа веялі такім чынам, што бралі яго малой ручной **шуфелькай** і кідалі над токам. Аддзяліўшы добрае зерне ад **апаследу** і **паловы,** потым яго падсявалі ў рэшаце, скружвалі каласкі. Калі спатрэбілася, з вытрасенай **простай** саломы рыхтавалі **кулікі** на пакрыццё страхі. Кулік, звязаны пры каласках, называўся **острэшком,** а звязаны пры камлях — **головачом.** Зерне малолі на муку ў **жорнах.** Хлеб расчынялі ў **дзежцы** на вадзе, змешанай з двума-трыма літрамі дзяжковага **квасу.** Да гэтай кіславатай вадкасці дадавалі крыху мукі і размешвалі. Калі на другі дзень **рошчына** забушуе, тады дадавалі мукі і мясілі цеста. Урослае цеста клалі на **лапату,** засланую



*У старым драўляным будаўніцтве захаваліся арыгінальныя элементы народнай разьбы ў дрэве.*

**капусным лістом,** фармавалі ў бохан і ўсоўвалі на лапаце ў напаленую і вымеценую **памялом** печ. З рэштак сашкрабанага са сценак дзежкі цеста і шчыпты мукі рабілі невялічкі **хлябец-булачку,** а спёкшы яго, крышылі ў дзежку і залівалі вадою. Пасля трох-чатырох дзён быў ужо новы квас. Хлеб трымалі ў хаце на **траме.** Трама — шырокая дошка цераз усю хату, падбітая да бэлькаў. Бохан хлеба заўсёды ляжаў на стале, прыкрыты абрусам. Калі сям'я сядала к сталу есці, **бацька** рэзаў хлеб і клаў **скібку** перад кожным. Жыта калісьці намалочвалі мала, і таму часта, месячы хлебнае цеста, дадавалі да яго варанай тоўчанай **бульбы.** У харчаванні вялікую ролю адыгрываў таксама **дзяжковы квас.** Квас пілі, лічылі яго надта здаровым. Елі вараную бульбу і запівалі квасам з крышанай цыбуляй, да сена або жніва заўсёды бралі з сабою збанок квасу. Нават касцы, ідучы ў луг, на абед бралі з сабою збанок квасу з накрышанай у яго зялёнай цыбуляй і торбу варанага гароху. На квасе варылі **боршч** з буракоў, салодкую **капусту,** картафлёвы **боршч.**

На вяселле пяклі **каравай** з пшанічнай мукі на малацэ і дражджах. Рыхтаваць яго прыходзілі **каравайніцы.** „Месят — співают, гускі робят, качкі робят, — прыгадвае **М. Кавальчук.** — Тесто кладут у міску. Потым ёго прыбэрут тымі гускамі, качкамі, місецамі. Ставят на лопату міску тую, співают: „Коровай гычэ, коровайнічкоў клічэ...“ і садят у пэч. Детям пэклі маленькіе коровайчыкі-булочкі. На такой булочцы ўсадітце гусочку посэрэдіні і ўпэчэтце“.

Хлеб прысутнічаў і на **вяселлі, хрысцінах, памінках.** Яго кроілі і з **рэшата** клалі на стол перад гасцьмі. Калі маладая ехала да вянца, бацька тройчы абходзіў вакол возу і **пасыпаў** яе зернем жыта або пшаніцы, а маці перад коньмі **клала** на зямлю бохан хлеба. Маладыя ці кумы, едучы ў царкву або касцёл, бралі з сабою **два-тры боханы хлеба** і аддавалі іх святару і дзяку ці арганісту.

Хлебам надта даражылі, **зберагалі** яго, не кармілі ім жывёлаў, стараліся не крышыць.

Сяло **Андрыянкі** цяпер і **хлебнае** і **мясное.** Сяляне збіраюць высокія ўраджаі, гадуюць шмат дабытку. Найлепшыя гаспадары ў вёсцы — гэта **Казімір Невяроўскі, Уладзіслаў Барысюк, Браніслаў Тачынскі.** За сялом на пагорку высіцца сучасны прасторны **школьны комплекс** — пачатковая школа і дом настаўніка. З яе муроў выйшла ў свет многа таленавітай моладзі. У **Андрыянках** любяць чытаць. У **бібліятэцы** пад дбайным наглядам бібліятэкара, абсальвенткі Бельскага беларускага ліцэя **Валянціны Каптэвіч** знаходзіцца 4 800 тамоў кніг. Карыстаюцца імі 240 сталых чытачоў, якія ў год прачытваюць каля 3 200 кніг. Ёсць таксама **святліца,** а мясцовая **пажарная** добраахвотная каманда складаецца з 24 чалавек. У вёсцы паўстае штогод шмат **новых** мураваных сучасных **дамоў, хлявоў** і **стадолаў.** Сяляне набываюць многа машын і сучаснага хатняга абсталюнку.

Андрыянкі сёння — гэта сяло і культурнае і заможнае.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



*Сучасны школьны комплекс у Андрыянках.*

# На ўзроўні сваіх абавязкаў

Партыйная арганізацыя чыгуначнага вузла ў Чароме ў юбілейным годзе нашай дзяржавы працуе асабліва добра. Партыйны камітэт прадпрыемства на чале з вопытным партыйным дзеячом Іванам Бяляўскім з'яўляецца сапраўдным палітычным кіраўніком усіх васьмі ўстаноў, звязаных з чыгуначным транспартам.

Дзякуючы плённай працы партыйнай арганізацыі, кожная паасобная ўстанова не толькі выконвае свае планавыя заданні, але і значна іх перавыконвае, даючы дадатковую прадукцыю і эканомячы матэрыялы. І так, за апошні перыяд калектыў насычальні даў дадатковай прадукцыі на 1 млн. 361 тыс, зл, а калектыў паравознага дэпо дабіўся ашчаднасці паліва на суму 3 млн. 300 тыс. зл. Справам дадатковай прадукцыі і ашчаднасці матэрыялаў было прысвечана шмат партыйных сходаў ва ўсіх васьмі ўстановах. У суме адбылося іх 29. Гаспадарча-эканамічныя справы знаходзяцца ў цэнтры ўвагі партыйнага камітэта.

Партыйная арганізацыя прадпрыемства прысвячае шмат увагі і грамадскім чынам свайго некалькітысячнага калектыву. Сёлета па-за планавымі абавязкамі калектыў чаромхаўскага чыгуначнага вузла прыняў абавязацельства выканаць грамадскую працу на суму 5 млн. 985 тыс. зл. Паліва будзе сэканомлена на суму 5 млн. 800 тыс. зл. Рабочыя абавязаліся таксама дапамагчы ў рамонце дарогі Чаромха – Зубачы. Будуць працаваць пры ёй 578 рабочых дзён.

На чаромхаўскім чыгуначным вузле працуе многа людзей з усіх навакольных вёсак. Рабоча-сяляне абавязаліся, што ў 1974 годзе павялічаць жывёлагадоўлю на 179 свіней і 61 карову.

Уздым чаромхаўскага калектыву да працоўных подзвігаў залежыць у многім ад цікавых форм дзейнасці партыйнай арганізацыі. Там кожны партыйны сход з'яўляецца выхаваўчай лекцыяй. На сходах праводзіцца ацэнка працы і паставы людзей, звяртаюць тут увагу на паводзіны не толькі на прадпрыемстве, але і ў хаце. Фатаграфіі найбольш заслужаных работнікаў (ёсць іх 65 асоб) змяшчаюцца на „Ганаровых дошках“ устаноў. Праводзяцца сустрэчы з былымі салдатамі, удзельнікамі Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, удзельнікамі другой сусветнай вайны і з тымі, што прымалі ўдзел у разгроме гітлераўскай Германіі. На чыгуначных прадпрыемствах Чаромхі ёсць 70 чалавек, якія працуюць тут 30 год. Яны былі асабліва шанаваныя і на сходах і ў працы.

У сувязі з падрыхтоўкай партыі да абмену партыйных білетаў, партыйная арганізацыя чаромхаўскага чыгуначнага вузла мае апрацаваны план дзейнасці, а многа каштоўных прапаноў, многа людскіх спраў і розных недахопаў выплыла падчас індывідуальных размоў камісій з паасобнымі членамі партыі. Усё гэта ўмела выкарыстана на карысць прадпрыемства, на карысць яго вялікага калектыву.

Неабходна ўспомніць таксама і аб тым, што партыйная арганізацыя належна супрацоўнічае з кіраўніцтвам спамянутых устаноў і дапамагае ў дзейнасці прафсаюзнай і маладзёжнай арганізацыям, клапоціцца аб выхаваўчай працы дома культуры чыгуначнікаў і г.д. Усё гэта стварае добрую атмасферу працы ва ўсіх установах, і таму смела можна гаварыць аб тым, што чаромхаўская ПОП знаходзіцца на ўзроўні сваіх заданняў.

**М. Хмялеўскі**

## Кожынскія гарцэры

Як толькі пачаліся канікулы, адразу на другі дзень дзеці з Кожына Вялікага пайшлі ў лес будаваць лагер. Паставілі шалашы, памуравалі печку, падрыхтавалі спартыўную пляцоўку.

Дружыну гарцэраў і зухаў вядзе Міраслаў Ваўрэнюк, сын Мікалая. Кожынскія гарцэры прынялі да сябе сяброў з Катавіц і Беластока, якія на канікулы прыехалі да сваякоў. Лешак Бядрыцкі з Катавіц стаў за кухара, а да дапамогі ўзяў Сцёпу Ваўрэнюка, сына Васіля.

Ходзячы па лесе за грыбамі, чуеш штодзень вясёлыя галасы дзяцей, якія гуляюць у мяч ці працуюць у лагеры. Матчы яны разыгрываюць з дружынамі суседніх вёсак — Гукавічы, Зубава і іншых. Заўсёды выігрывае Кожына.

Лагер прыцягвае дзяцей, бо тут весела, прыемна і пад бокам у бацькоў. Самі збіраюць грыбы, самі вараць есці. Вакол парадак і чысціня. Смецце выкідаюць у спецыяльна падрыхтаваныя кашы. Аднойчы кожынскія каровы, ідучы на пашу, развалілі ў гарцэраў іхнюю лясную печку, ды хлопцы хутка яе направілі. Так вось працавітыя дзеці з Кожына самі сабе арганізавалі найлепшы адпачынак.

**Прахожы**

## Паўгода чысцяць

Ужо больш паўгода чысцяць невялікі адрэзак ракі Нараўкі ў Белавежы. Ля ракі тут раслі вялікія прыгожыя дрэвы. Іх цяпер выкарчавалі, бо трэба было зрабіць дадатковае русло ракі. Пазрэзвалі таксама дрэвы, якія раслі раней на адным з астравоў на рацэ. Работа ідзе вельмі павольна. Цяпер канікулы, а жыхары Белавежы і шматлікія турысты і далей не маюць дзе купацца.

**К. Т.**

## У Гацькоўскім клубе

Клуб селяніна ў Гацьках прасторны і чысты. Моладзь робіць цікавыя сценгазеты. Можна тут культурна правесці час. У адну з апошніх нядзель мясцовая моладзь арганізавала танцы. Іграў вельмі добры аркестр з Кузавы Гайнаўскага павету. Прыемна гуляла моладзь з Гацькоў і навакольных вёсак.

**Ваня Кірызюк**

# Дбаючы пра наша здароўе



На ўскраіне Беластока, у адным з новых дамоў знаходзіцца Беластоцкая вопытная станцыя Познанскага інстытута аховы раслін.

— Наша станцыя ўзнікла ў 1972 годзе, — кажа яе кіраўнік інжынер **Рышард Семянюк**. — Яна — адна з шасці такога роду станцый у нашай краіне. Сваёй дзейнасцю ахопліваем Беластоцкае і частку Ольштынскага ваяводстваў. Займаемся вельмі важнай у нашыя часы справай — даследуем рэшткі пестыцыдаў у раслінных прадуктах, глебе і вадзе. Пестыцыды, як вядома, — гэта атрутныя хімічныя сродкі ў выглядзе розных парашкоў і вадкасцей, якія прымяняюцца для аховы раслін ад розных хваробаў, а таксама для знішчэння пустазелля, грыбоў, насякомых, шкодных грызуноў, г.зн. мышэй, пацукоў і г.д. Што і казаць, пестыцыды з'яўляюцца дасканалымі памочнікамі чалавека, яны ахоўваюць збожжа і іншыя сельскагаспадарчыя культуры ад страт, аблягчаюць працу чалавека, напрыклад, пры праполцы. Нашу бульбу даўно з'еў бы каларадскі жук (стонка), калі б не было адпаведных хімічных сродкаў супраць гэтага пражэрлівага насякомага. Але калі строга не захаваць карэнцыі, г.зн. часу, які неабходны для таго, каб высеяны або распырсканы пестыцыд цалкам страціў свае атрутныя ўласцівасці і перастаў быць шкодны для чалавека і жывёлаў, тады такі прадукт можа быць небяспечны. Вось таму ні ў якім выпадку нельга спажываць расліну (збожжа, садавіну, гароднíну) раней таго часу (звычайна два або болей тыдняў), які вызначаны на карэнцыю для ўжытага пестыцыда. Часам сяляне ці агароднікі рассяваюць або распырскваюць большую колькасць пестыцыда, чым гэта патрабуецца. Такая „шчодрасць“ вельмі шкодная. Трэба вельмі дакладна выконваць інструкцыі, якія знаходзяцца пры ўпакоўцы гэтых атрутных сродкаў. Наша станцыя пільна сочыць за тым, каб у раслінных прадуктах, глебе і вадзе не было шкодных рэштак пестыцыдаў.

— Як вы гэта робіце?

— Як бачыце, увесь наш будынак — гэта вялікая хімічная лабараторыя. Бяром на пробу самыя разнастайныя сельскагаспадарчыя прадукты — збожжа, садавіну, ягады, гародніну, нават салому — ад індывідуальных гаспадароў, сельскагаспадарчых кааператываў, дзяржаўных сельскіх гаспадарак і праводзім вельмі дакладныя аналізы. Ад нас не схаваецца нават самы нязначны след пестыцыда ў прадукце, глебе ці вадзе. Абсталяванне ж маем дасканалае, а метады выкрыцця — надзейныя. Шмат прыбораў і апаратаў пастаўлена нам пры садзеянні міжнароднай арганізацыі ФАО (арганізацыя па справах харчавання і сельскай гаспадаркі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый). Зрэшты, з ФАО мы супрацоўнічаем, а яе прадстаўнік праф. Ц. Б. Кульсон наведвае нас.

— Які стан нашых прадуктаў, глебы і вады?

— Амаль ідэальны. У пераважаючай большасці ўзятых на пробу прадуктаў, глебе і вадзе няма ніякіх слядоў пестыцыдаў, і толькі вельмі рэдка трапляюцца выпадкі, калі заўважаецца іх нязначны след, абсалютна няшкодны чалавеку ці жывёлам. Беласточчына ў гэтых адносінах вылучаецца цнатлівай чысцінёй. І мы вельмі пільна зберагаем гэтую рэдкую ўжо на зямной кулі яе дзявочасць.

Размаўляў **Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

### Спартсмены з Семяноўкі

ЛЗС-аўцы з Семяноўкі Гайнаўскага павету стварылі футбольную каманду, у склад якой увайшлі: Мікалай Грэсюк, Уладзімір Бірыцкі, Юрка Шыманюк, Славамір Кулеша, Мікалай Панькоўскі, Пётр Варанецкі, Яўген Бірыцкі.

Семяноўскія спартсмены сёлета сыгралі матч з камандай з Ляўкова. Закончыўся ён перамогай ляўкоўцаў.

Тэкст і фота
**Я. Цялушэцкага**



## КАЛОДЗЕЖАЦ

Вада — непаўторнае прыроднае багацце, без якога немагчыма жыццё чалавека, жывёлы, расліннасці.

Многія сяляне капаюць цяпер новыя калодзежы. Не хапае, аднак, кваліфікаваных спецыялістаў. У Сямяціцкім павеце спецыяліста па будове калодзежа Паўла Шаўкалу з Бацікаў Бліжэйшых трэба чакаць не менш як год. У яго вельмі многа заказаў. Распачаў ён сваю прафесію ў 1936 годзе і да гэтага часу пабудаваў ужо 840 новых калодзежаў. Некаторыя з іх вельмі глыбокія, складаюцца аж з 57 кругоў (цэмбравін). Ён знае, дзе ёсць вада, у кожнай сялянскай сядзібе выбярэ адпаведнае месца для студні.

Павел Шаўкала таксама паглыбляе многім сялянам калодзежы, многім іх аднаўляе, робіць паўнаводнымі.

Павел Шаўкала пажылы ўжо чалавек. Прыдзе час, што перастане займацца будовай калодзежаў. І вельмі шкада, што пры ім ніхто не вучыцца такой патрэбнай для вёскі прафесіі.

У ліпені будаваў ён калодзеж у Шымона Мэндрыцкага ў вёсцы Каянка. Зрабілі яму фота, калі Павел Шаўкала ўпускаўся ў калодзеж на глыбіню 24 кругоў.

**М. Хмялеўскі**
**Фота В. Рудчыка**



## ЛЮДЗІ ДУБІЦКАГА СЕЛЬГАСГУРТКА

Зімою ў дубіцкім сельгасгуртку было выбрана новае праўленне. Старшынёй стаў мясцовы жыхар Лявон Старасельнік. Як кажуць, ён з мэты распачаў працу, а былі немалыя непаладкі. Новы прэзас хутка гэта ліквідаваў. Вядома, і праўленне не спала. Усё стала на сваё месца, запанавала дысцыпліна і парадак. Хаця Л. Старасельнік мае і сваю немалую гаспадарку, якую выдатна вядзе (найлепш у вёсцы), аднак мае час і сілы, каб і наш сельгасгуртох таксама весці на высокім узроўні. Гэта чалавек энергічны, працавіты і справядлівы.

Добрасумленна працуюць і іншыя працаўнікі, якія па сваёй прафесіі працуюць тут (старшыня, як ведаем, гэта грамадская функцыя). Найбольшы абавязак ляжыць на дыспетчары. У Дубічах Царкоўных ад вясны на гэтай пасадзе працуе Сцяпан Кот, родам з суседняй вёскі Істок. Хаця гэта яшчэ малады чалавек, аднак умее жыць з людзмі. На машыннай базе дысцыпліна, машыны і прылады адрамантаваны. Сялян цешыць факт, што новы дыспетчар хутка і без чакання абслугоўвае іх, што стрымлівае слова. На калі скажа, што дасць машыну, абавязкова выканае.

Нельга не сказаць і пра тутэйшых трактарыстаў. Салідныя, дысцыплінаваныя і добрыя яны хлопцы. Добра працуюць. А вось іх прозвішчы: Пятро Анапюк (ён працуе ад заснавання сельгасгуртка), Палікарп Анапрыюк, Уладзімір Кулік і іншыя.

Таксама цёплыя словы належацца кавалю Дзмітру Анапрыюку, які з'яўляецца „доктарам“ гурткоўскіх машын і прылад. Кавальствам займаецца ён ужо 25 год. Гэта дасканалы майстар і працавіты чалавек.

**Мікалай Панфілюк**

(Працяг са стар. 1)

## НА НОВЫМ

калі ўжо выбраў сабе школу, няхай вучыцца. Два сярэднія сыны — Міраслаў і Янка — пакуль што ў шостым класе пачатковай школы. Мы хацелі б, каб яны потым у школу механізацыі сельскай гаспадаркі ў Міхалове паступілі. Ну, а найменшы наш, чатырохгадовы Андрэйка, нарадзіўся ўжо тут, на новай гаспадарцы. Мо, калі закончыць сельскагаспадарчую школу, няхай тут і гаспадарыць.

— А як далей?

— Спадзяемся, што ў будучым годзе правядуць у нас камасацыю зямлі. Тады, бадай, зоймемся толькі гадоўляй малочнага быдла. Давядзем статак да пятнаццаці штук. Дагледзім належна будынкі і панадворак. Прыкупім машын і мэблі. Каб толькі здароўе служыла яшчэ, бо яно ў нас з мужам не надта.

Хаджу з гаспадарамі па полі і лузе. Усё такое мажное: і збожжа, і кармавыя буракі, і бульба. І не дзіва — у мінулым годзе яны высеялі чатырнаццаць тон мінеральных угнаенняў. Дабытак таксама дагледжаны: паша добрая, угноеная, падзеленая на кватэры. У гэтым годзе збіраюцца залажыць прызмовы сілас, каб мець квашанку на корм. У садзе голле гнецца ад яблык і груш...

**Мацей і Валянціна Варона** карыстаюцца пашанай і ў гміне і ў павеце. Яны ўзнагароджаны некалькімі дыпломамі за рэкордныя пастаўкі малака, мелі таксама грашовыя ўзнагароды. І слушна, такім працавітым людзям і ўмелым гаспадарам належыцца пашана.

**Ігнат Снарскі**
**Фота аўтара**




## Нашаніўская пара

### МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА XIV

**Гістарычныя вершы.** Гістарычная тэматыка выступае толькі ў некалькіх вершах Багдановіча. Да гістарычных твораў паэта можам залічыць вершы: „Летапісец“, „Перапісчык“, „Кніга“, „Безнадзейнасць“. Творы „Перапісчык“ і „Кніга“ Багдановіч пераклаў на рускую мову. Мы тут пералічылі толькі тыя вершы Багдановіча, якія адносяцца да гісторыі Беларусі. У спадчыне паэта знаходзім нямала вершаў, у якіх выступаюць элементы гісторыі іншых народаў, асабліва гісторыі Грэцыі, Рыму, Егіпту. У сувязі з тым, што мы пакуль што разглядаем толькі тыя віды паэзіі Багдановіча, якія змяшчаюцца ў рамках паняцця „нацыянальная паэзія“, не будзем аналізаваць тых вершаў, у якіх не выступае беларуская праблематыка.

Багдановіч свядома ўводзіў гістарычныя матывы ў сваю паэзію. Паэт быў перакананы, што беларускія масы, а тым больш беларускія дзеячы ці беларускія пісьменнікі павінны разбірацца ў спецыфіцы гісторыі сваёй краіны. Сам паэт цікавіўся мінулым Беларусі. Не толькі цікавіўся як чытач, але і як інтэрпрэтатар гісторыі Беларусі. Сведчаць аб гэтым перш за ўсё артыкулы, у якіх Багдановіч дае глыбокі аналіз некаторых з'яў з мінулага краіны. Аднак артыкулы будуць прадметам нашага пазнейшага аналізу, і таму не будзем імі сёння займацца. Названыя ўжо намі вершы гістарычнага цыкла склалі падраздзел у „Вянку“ Багдановіча пад загалоўкам „Старая Беларусь“. Праўда, у гэты падраздзел увайшлі яшчэ і іншыя вершы: „Слуцкія ткачыхі“, „Ціхі вечар“, „Знікнула спякота“, „Па ляду, у глухім бары“. Мы ўжо разгледзелі верш „Слуцкія ткачыхі“, а вершы „Ціхі вечар“, „Знікнула спякота“ і „Па ляду ў глухім бары“ не маюць, на нашу думку, гістарычнага элементу. У сувязі з гэтым зоймемся толькі такімі вершамі, як „Летапісец“, „Перапісчык“, „Кніга“ і „Безнадзейнасць“. Якая галоўная рыса гэтых вершаў? Можна яе назваць вузкатэматычным гістарызмам. Справа ў тым, што тэматыка гэтых вершаў не ілюструе розных шырокіх аспектаў гістарычнага мінулага, а абмяжоўваецца толькі адной праблемай, адной тэмай. Усе названыя вершы звязаны з кнігай, а па сутнасці з людзьмі, якія ў мінулым стваралі кнігу, — з перапісчыкамі.

У „Летапісцы“ Багдановіч малюе постаць безыменнага перапісчыка, што „душой стаміўшыся ў жыццёвых цяжкіх бурах, свой век канчае ён у манастырскіх мурах“. Багдановіч параўноўвае летапісца з „рупнай пчалой“, якая зносіць у соты салодкі мёд, збіраючы яго з горкіх кветак. Далейшыя фрагменты верша маюць рэфлексійны характар. Аўтар піша аб бутэльцы з запісамі, якую кінулі маракі ў мора і якая будзе калісьці знойдзена патомкамі і дасць ім інфармацыі аб лёсе тых, хто яе кінуў у мора. Такую ж ролю і такое значэнне прыпісвае Багдановіч і летапісам, якія не дазволяць загінуць гістарычным фактам:

„Вы, літары, цяпер нанова ўсё
збудзілі!
І людзі зведаюць аб прадзедах
сваіх, —
Аб горы, радасцях і аб прыгодах іх“.

Наступны верш „Перапісчык“ у многім нагадвае верш „Летапісец“. Аднак ёсць паміж імі розніца. Заключаецца яна ў тым, што „Перапісчык“ пазбаўлены філасофскай рэфлексійнасці, якая характарызавала „Летапісца“. У „Перапісчыку“ Багдановіч зводзіць сваю ролю да ролі фатографа. Дакладна апісвае працу перапісчыка старых кніг. Аднак верш „Перапісчык“ — гэта фатаграфія эмацыянальная. Багдановіч малюе вялікую колькасць дэталяў, дробных фактаў, якія даюць паняцце аб працы перапісчыка:

„На чыстым аркушы, прад
вузенькім акном,
Прыгожа літары выводзіць ён
пяром,
Устаўляючы паміж іх чорнымі
радамі
Чырвоную страку і ўсякімі
цвятамі,
Разнакалёрнымі галоўкамі цвятоў
І птах нявіданых, спляценнем
завіткоў“.

Так, гэта фатаграфія эмацыянальная і каляровая.

Верш „Кніга“ — гэта рэфлексія, выкліканая сутыкненнем Багдановіча з Псалтыром, напісаным у Ваўкавыску.

Апошні твор „Безнадзейнасць“ нетыповы ў тым сэнсе, што паказвае Скарыну не як друкара, але як лекара, які лечыць нейкага „земскага пісара“. У гэтым вершы паэт выкарыстоўвае народнае перакананне аб тым, што памутнеўшае золата пярсцёнка азначае набліжэнне смерці. Пісар бачыць, што персцень на пальцы страціў блеск, і ў гэтым бачыць азнаку смерці.

З вышэй сказанага бачым, што ўсе гістарычныя вершы Багдановіча можам залічыць да культурна-літаратурнага гістарызму. Дарэчы, варта ўспомніць, што вершы гэтага цыкла былі напісаны пасля прыезду Багдановіча ў Вільню ў 1911 г. Там у музеі ўбачыў паэт старыя беларускія кнігі.

 

# Сэрдэчныя тайны

**Дарагое „Сэрцайка“!**

Пішуць да цябе і просяць параду пераважна маладыя, нявопытныя яшчэ дзяўчаты, а часам і хлопцы. А я вось ужо і немаладая, і замужняя, а апынулася ў такой сітуацыі, што сама не магу вырашыць, як паступіць. А справа такая. Выйшла я замуж у суседнюю вёску. І дзіця ўжо ў нас ёсць — трохгадовы Мірэк. Муж мой разважлівы, спакойны, працавіты. Так што сямейнае жыццё ўкладалася ў нас нядрэнна, пакуль не спаткала я мужчыну, якога пакахала. Жыве ён у мястэчку, маляром працуе і ў апошні час у нашай вёсцы хаты маляваў, між іншым, і ў нас. Спадабаўся ён мне вельмі. Прыстойны, вясёлы, жартаўлівы. Ён таксама гаварыў, што пакахаў мяне, хаця таксама жонку і двое дзяцей мае. Нават запрапанаваў, каб я ўзяла развод з мужам, а ён з жонкаю, а тады мы выедзем у далёкі горад і там пажэнімся. Я аднак пакуль што не дала яму адказу. Бо ведаю, што гэта справа не такая ўжо простая. У нас жа ёсць дзеці. Але прызнаюся, што гатова ўжо згадзіцца на ўсё, каб толькі быць з ім разам. Муж мой стаў мне зусім абыякавы. Ён, пэўна, і заўважыў гэта, але пакуль што нічога не гаворыць, гэта ўжо такі ўстрыманы тып чалавека. „Сэрцайка“, парай, як паступіць?

**Галіна**
**з Беласточчыны**

**Галіна!** Ты мусіш кіравацца не толькі пачуццямі, але і рассудкам. Ты ж не адна, а з сям'ёй, і твой каханы таксама. І нельга думаць толькі аб сваім шчасці. А ці ж вы яго здолееце пабудаваць, разбурыўшы дзве сям'і? Мужа, відаць, ты добрага маеш, а якім потым акажацца твой каханак, калі б з табой ажаніўся, невядома. Нямнога ты яго ведаеш. А відаць лёгкадумны і эгаіст, калі не ўзяў пад увагу дзяцей вашых. Разбурыць сямейнае гняздо можна вельмі хутка, а потым яго скласці справа вельмі цяжкая, а нярэдка і немагчымая. Раю табе, Галіна, сур'ёзна аб гэтым падумаць. Веру, што табе нялёгка, бо пакахала ты гэтага мужчыну. Але, напэўна, нядоўга ён у вас будзе. Скончыць работу і паедзе назад да сваёй сям'і. Гэта вельмі істотнае, каб ты яго не бачыла на штодзень. Старайся не думаць аб ім. Займіся мужам, сынам, на іх пералі свае пачуцці. І, веру, з часам астыне тваё каханне да гэтага мужчыны, і будзеш шчасліва са сваёй сям'ёй.

**„Сэрцайка“**

*У НАШЫМ ФОТААБ'ЕКТЫВЕ*



*На ставе.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

# Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: М. працаваў на чыгунцы і ў час перакочвання вагонаў папаў пад кола, у выніку чаго страціў нагу. Ад чыгункі ён атрымаў кампенсату ў суме 40 тысяч злотых і пенсію. Яму паведамілі, што больш яму па закону не належыцца. М. прызнаны інвалідам II групы. Яму ўсяго 35 год і, безумоўна, яго матэрыяльная сітуацыя ў выніку няшчаснага выпадку значна пагоршылася. Ці можа ён дабівацца праз суд далейшай кампенсаты ад чыгункі або ад вінаватых у няшчасным выпадку?

АДКАЗ. М. правільна паінфармавалі, што, згодна з законам, яму нічога больш ад чыгункі не належыцца. Ён можа патрабаваць далейшай кампенсаты ад асоб, з-за якіх здарыўся няшчасны выпадак. Аднак трэба даказаць, што асоба, ад якой патрабуецца кампенсата, нарушыла правілы, устаноўленыя для выконвання данай працы, што яна была неасцярожнай і нядбалай і выпадак быў выкліканы яе няправільнымі паводзінамі. Калі М. не зможа прадставіць суду гэткіх доказаў, не можа разлічваць на паспяховае вырашэнне справы.

# Ці ведаеце, што...

...кожную мінуту на свеце паяўляецца адна кніжка. Звыш 8 мільярдаў кніжак друкуецца кожны год на свеце, у ліку 80 працэнтаў выпускаецца ў еўрапейскіх краінах, у Савецкім Саюзе, ЗША, Канадзе і Аўстраліі.

...у краінах Азіі, Лацінскай Амерыкі і Афрыкі, дзе жыве 42 працэнты ўсяго насельніцтва свету, прадукцыя кніжак невялікая. Імпартаваныя кніжкі вельмі дарагія. Вельмі мала кніжак друкуецца ў краінах Афрыкі. Прычына гэтага ў тым, што насельніцтва паслугоўваецца рознымі мовамі і дыялектамі.

...у многіх краінах заходняй Еўропы кніжкі чытаюць вельмі мала. 60 прац. італьянцаў і 47 прац. французаў не бяруць кніжак у рукі. З'яўляецца гэта вынікам канкурэнцыі радыё, тэлевізіі і кіно.

(іт)

...на Беласточчыне пастаяннае кругласутачнае бесправадное спалучэнне цэнтраў здароўя з ваяводскім лячэбным цэнтрам мае 9 паветаў (на агульны лік 19). Да канца гэтага года такую ж радыётэлефонную сувязь атрымае цэлае нашае ваяводства.

(ця)

# Куток практычных ведаў




**АЛЮМІНЕВАЯ ПАПЕРА**

Многія гаспадыні яшчэ не ведаюць, для чаго можна выкарыстаць алюміневую паперу (фолію). Пытаюцца часта, ці не прадоўжвае яна часу пячэння патраў, ці можна ў ёй варыць.

Алюміневая фолія вельмі прыдатная на кухні. Можна ў ёй спячы мяса, пірог, гародніну і фрукты. Прадукты, якія мы смажым у фоліі, захоўваюць свой арамат, бываюць сочныя, не прыгараюць. Трэба падкрэсліць, што ўсе прадукты смажацца хутчэй, чым традыцыйным спосабам, паколькі нагрэтая алюміневая папера распаўсюджвае цяпло раўнамерна на ўвесь прадукт.

І так, напрыклад, гародніна ці бульба, загорнутыя ў алюміневую паперу і ўстаўленыя ў нагрэтую раней духоўку (200-220 градусаў), смажацца 20-30 мінут, вялікае кураня — 45-60 мінут, рыба — 40-50 мінут, схаб — 60-70 мінут, валавіна — каля гадзіны.

Вельмі прыдатная алюміневая папера, калі мы пячэм пірагі. Калі духоўка награваецца занадта моцна, добра было б вылажыць бляшкі алюміневай паперай; тады пірог не прыгарыць. Бывае, што пірог вельмі хутка становіцца румяным зверху. Тады трэба накрыць яго зложанай удвая алюміневай паперай.

У алюміневай паперы вельмі добра перахоўваюцца розныя прадукты ў халадзільніку. Асабліва патрэбна гэтая папера для прадуктаў, якія маюць моцны арамат. Хлеб, булачкі ці пірог не трацяць сваёй свежасці, калі загарнуць іх у алюміневую паперу.



Алюміневая папера можа замяніць таксама місачку ці жароўню для запякання ці смажэння. Паперу трэба зложыць удвая, на двух супрацьлеглых канцах скруціць у спіральку і палажыць у яе адпаведны прадукт. Смажыць, як у звычайным посудзе. Алюміневую паперу пасля выкідаем, эканомячы свой час на мыцці.

**Гаспадыня**






На світанні 23 красавіка 1974 года трывожна адазваўся тэлефон на стале дзяжурнага павятовай камендатуры грамадзянскай міліцыі ў Алецку. Званілі з Элка. Паведамлялі аб пакражы пісталетнай амуніцыі ў сядзібе павятовага праўлення Лігі абароны краіны і загадвалі праверыць усе пасажырскія цягнікі, якія прыходзяць з Элка. Дыжурны паслаў на станцыю двух міліцыянераў: **Мікалая Пратко і Антона Мілуна.**

Пачынаўся цёплы вясенні ранак, напоўнены спевам птушак і пахам расцвіўшых садоў. Абодва міліцыянеры былі ўжо змучаны начным дзяжурствам. Асабліва Мікалай Пратко. Ён старэйшы. Неўзабаве было б яму 50 гадоў. Паходзіў з вёскі Паўлавічы пад Мілейчыцамі ў Сямяціцкім павеце. На службу ў міліцыю паступіў яшчэ ў 1947 годзе. Час быў небяспечны, лясныя банды не давалі жыць сялянам. Ён, Мікалай Пратко, 22-гадовы вясковы хлопец з беднай сялянскай сям'і, не пабаяўся іх, прыняў ад дзяржавы зброю, каб абараняць яе гаспадарку і ўстановы. У міліцыі прабыў самы цяжкі пасляваенны перыяд — да 1956 года. На далейшую службу не дазволіла яму здароўе, дык паслалі яго працаваць у міліцыйным доме адпачынку ў Алецку. Там працаваў і набіраў сіл. 1 лістапада 1972 года зноў апрануў мундзір міліцыянера.

Дык была гэта красавіцкая раніца. Апошняя раніца ў жыцці міліцыянера Мікалая Пратко. Вядома, гэтага ён не спадзяваўся, не думаў аб гэтым, калі разам з малодшым сябрам па службе правяраў дакументы і багаж нешматлікіх пасажыраў цягніка, які прыбыў у Алецка ў 4 гадзіны 45 мінут раніцы 23 красавіка 1974 года. Дайшлі да другога купэ вагона першага класа. Вокны ад калідора былі закрыты занавесамі. Антон Мілун рвануў за клямку, дзверы не адчыніліся. Пайшоў далей. Мікалай Пратко, які ішоў за ім, быў болей рашучым. Пачаў стукаць у дзверы і патрабаваць, каб пасажыр, які знаходзіўся ў купэ, адчыніў іх. І тады паў гэты выстрал... першы, смяротны... і зараз жа другі... Куля перарвала вену і жылу пад левай рукой. Калі праз мінут пятнаццаць прыімчалася хуткая дапамога, ён ужо не жыў. Памёр ад раптоўнай затраты крыві.

Тады яшчэ ніхто не ведаў, што забойцам міліцыянера Мікалая Пратко, бацькі чацвярых дзяцей, з'яўляецца заўзяты злодзей **Станіслаў Нікадэмчук,** які ўжо тройчы глядзеў на свет праз турэмныя краты. Закончыў дзве няпоўныя сярэднія прафесіянальныя школы: сельскагаспадарчую і будаўнічую. Аднак працаваць яму не хацелася. Затое любіў грошы, гарэлку і вясёлую кампанію, асабліва жаночую. І яшчэ хацеў мець элегантны аўтамабіль, не горшы, скажам, ад „Фіята-125П“. Адкуль жа ўзяць на гэта грошы, калі ў яго аўтабіяграфіі самы даўжэйшы перыяд працы без перапынку не дасягае нават аднаго года.

— Дурныя толькі працуюць, — гаварыў сваім сябрам па кілішку. Дык краў. Усюды і ўсё, што толькі папала пад клейкія рукі. У ліпені 1973 года выпусцілі яго з турмы. Пасля двухмесячнага „адпачынку“ ў сястры ў Галдапе, паявіўся ён на будове мясного камбіната ў Элку. Там яго ахвотна прынялі на работу, бо прымалі ўсіх, хто да іх прыходзіў, а Станіслаў Нікадэмчук рэкамендаваўся выпускніком засадніччай школы будаўнікоў. Ён, аднак, не пакідаў думкі аб здабычы вялікага капіталу. Дзеля гэтага зрабіў сабе адмысловы лом, спецыяльна прыстасаваны да ўзлому стальных сейфаў. Украў бормашыну і другія прылады. Так узброены, дабіраўся да розных установаў, бараў, рэстаранаў і кіно ў Беластоку і Элку. Яму не шанцавала. Замест сотняў тысяч злотых, знаходзіў усяго ледзь па некалькі сотняў злотых, часам пару бутэлек гарэлкі, пару дзесяткаў шакаладаў або іншых прадуктаў. Гэта толькі паглыбляла яго заўзятасць. Але вось 13 красавіка 1974 года ў Элку за адну ноч уламаўся ён у касу кіно, у сталовую „Малая“ і рэстаран „Турыстычны“. У кіно знайшоў ножніцы, ручку і крыху дробных грошай — разам на суму 89 злотых. Са сталовай „Малая“ забраў грошы і прадукты на звыш 6 тысяч злотых, у рэстаране „Турыстычным“ узбагаціўся амаль на 10 тысяч злотых. На дзесяць дзён супакоіўся, бо якраз прыпадала велікоднае свята. Але 23 красавіка 1974 года зноў уламаўся ў сядзібу павятовага праўлення Лігі абароны краіны ў Элку. Шукаў грошай, знайшоў зброю. Забраў пісталеты і звыш 10 тысяч патронаў. З гэтай зброяй адправіўся цягніком у Алецка... Рука не дрогнула. Выскачыў з цягніка, на ходу яшчэ пару разоў стрэліў у зямлю, пераскочыў праз станцыю, падбег да пустога аўтобуса, прымусіў шафёра, каб адвёз яго як найдалей ад Алецка...

20 дзён па ўсёй Польшчы шукала яго міліцыя, хаця ўжо на другі дзень пасля забойства міліцыянеры ведалі яго прозвішча, а яшчэ праз дзень тэлебачанне падало яго партрэт. А ён, як бы нішто сабе, гуляў па Беласточчыне, наведваў сваю каханку ў Беластоку, хацеў нават начаваць у гасцініцы „Туркус“. Пасля паехаў у Люблін, а з Любліна — у Катавіцы. Там яго злавілі, калі закраўся ў альтанку на агародчыку старэйшых пенсіянераў.

Цяпер ён чакае судовага разбору справы. У акце абвінавачання, апрача забойства міліцыянера, пракурор закідвае яму аж 28 іншых добра ўдакументаваных злачынстваў. Так канчаецца кар'ера тых, хто захацеў жыць за кошт іншых, хто лічыць лішнім дакранацца да карыснай працы.

Хто аднак падменіць бацьку асірацеўшым дзецям міліцыянера Мікалая Пратко?

**Віктар Рудчык**



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ПАРНАСІК

### ЛЕТА

Ветрык сіні мокне ў рэчцы,
Вакол гладзь і цішыня...
І вядзе да воза ўрэшце
Бацька добрага каня.

Ужо камбайн паўзе па ніве,
Жнейка падае крылом.
Гэта выйшаў у поле жнівень
За сабой павёў сяло.

Сёння свята на палетках,
Свята працы, дабраты,
І бруіцца ў бункер лета
Зернем буйным, залатым.

**Васіль Гайда**

* ※ *

**У гадавіну смерці сябра М. П.**

*Умэр —*
*нэ встанэ ніколі*
*як пташка загінуў*
*у полі*
*Усіе ёго думы стаптаны*
*Такі відно лёс*
*Ему*
*даны*
*Але помніт*
*і помніті будэ*
*і віек Его нэ забудэ*
*Сэрце*
*однэ, малое*
*Дружолюбнэ такое.*

**„Шаравокая“**
з Бельскага беларускага ліцэя.

* ※ *

*Чакаць —*
*не чакаю,*
*любіць —*
*не люблю,*
*ды ўсё ж*
*аднаго я*
*забыць не магу.*
*Успаміны*
*засталісь*
*аб сонечных*
*днях,*
*аб шчасці якое*
*ўжо мела*
*ў руках.*
*Хацела б забыцца,*
*ўтапіці*
*вадой,*
*дні, сонцам заліты,*
*аснаваці*
*імглой.*
*Вады мне забракла,*
*імглы не знайшла,*
*і з сэрцам балючым*
*у жыццё я*
*пайшла*

**Ніна Матысюк,**
Гайнаўскі беларускі ліцэй

### ГАСПАДАР

Жыве Яська Качагар
Такі добры гаспадар.
Ён авёс і жыта сее —
Гаспадарыць добра ўмее.

Рана-ранецька ўстае,
Ужо сечку ў хлеў нясе.
Там стаіць каровак пяць —
Трэба есці ім даваць.

Потым коней даглядае,
Іх таксама двое мае,
Мае ён авечак дваццаць
І свіней дзесь так пятнаццаць.

А за клуняю ў яго
Расцягнуўся агарод.
Тут расце загон гароху
І пятрушкі тожа троху.

Чаго ж у Яські не хапае —
Ён і хатку нову мае,
Мае жонку і дзяцей,
Жыве штораз весялей.

**Васіль Асеннік,**
Спічкі

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

■ На чыгуначным пераездзе з Чаромхі ў Гайнаўку, каля вёскі Арэшкава праязджаючы поезд зачапіў дзіця, якое хадзіла адно. Цяжка параненае, яго адвезлі ў шпіталь.

■ У рацэ Нарва каля вёскі Чарэўкі (Беластоцкі павет) утапіўся Антон З. з вёскі Беле.

## Першы войт у Шудзялаўскай гміне

Праз некалькі месяцаў міне трыццаць год ад смерці першага войта гміны Шудзялава — Уладзіслава Альховіка. У канцы ліпеня 1944 года Савецкая Армія і Войска Польскае вызвалілі гміну Шудзялава ад гітлераўскай акупацыі. І адразу 1 жніўня першым войтам у гміне быў выбраны малады камсамолец Уладзіслаў Альховік. Шчыра ўзяўся ён за працу пры ўстанаўленні народнай улады. Першае заданне — гэта была дапамога арміям у харчаванні, устанаўленне ладу і арганізаванне міліцыі. Уладзіслаў Альховік працаваў, не зважаючы на цяжкасці і небяспеку з боку рэакцыйных банд. Тыя аднак рашылі знішчыць войта. Вось у лістападзе 1944 г. паехаў Альховік з міліцыянерам Казімірам Малішэўскім у вёскі Навінка і Казловы Луг. Калі вярталіся дамоў, пад Шудзялавам у шопах цагельні банда зрабіла на іх засаду. Тады забілі войта. І вось мінае ўжо з таго часу 30 год.

**Т. К.**

## СХОД ГУРТКА

Гурток ЗСМВ у Спічках налічвае 33 члены. Старшынёй з'яўляецца Сцяпан Косцераў, намеснікам — Косця Сахарчук, сакратаром — Люцына Гапуновіч, касірам — Мікалай Казімірук. У рэвізійнай камісіі — Ірэна Хаманская, Надзя Хаманская і Міша Хаманскі.

Гурток у Спічках дзейнічае ўжо даўно. Тыя, хто даўней працаваў у ім, цяпер служаць у войску, некаторыя пажаніліся, некаторыя павыходзілі замуж. Спічкоўская моладзь можа пахваліцца вялікім удзелам у грамадскай працы. Зараз імкнецца прыспасобіць мясцовую святліцу да працы і адпачынку. У ліпені адбыўся сход гуртка. Запрасілі солтыса Сяргея Гапуновіча. Гаварылі аб святліцы. Многа год прайшло з таго часу, калі яна рамантавалася. Цяпер трэба зноў аббіць сцены пільсняй, памаляваць ў сярэдзіне. Патрэбны матэрыял. Солтыс паведаміў, што гміна ў Орлі дапаможа. Трэба будзе папрацаваць, але нікому рукі не адляцяць, а святліцы чакаюць усе.

**Васіль Асеннік**

## У вёсцы Зубачы

Вядомы беларускі паэт Алесь Барскі сустрэўся нядаўна са школьнай моладдзю ў вёсцы Зубачы, у якой яшчэ не так даўно выкладалася беларуская мова. На сустрэчу з паэтам прыйшло вельмі многа асоб. Школьная зала была запоўнена да апошняга месца. Аўтар падпісаў вельмі многа зборнікаў сваіх твораў. Відаць, што ў гэтай вёсцы і школе маладыя людзі маглі б вывучаць родную мову і трэба было б ім у гэтым дапамагчы.

**В. Б.**



*Паэт Алесь Барскі з настаўніцай Нінай з Зубачоў, якая вучыла тут беларускай мове.*



*Вучні пасля сустрэчы з паэтам. Усе яны вучацца на пяцёркі.*

## СОЛТЫСЫ

Многа год солтысам у Зубаве быў Мірон Бенедычук. Цяпер гэта ўжо стары чалавек, вядома, мо і не па сіле было яму выконваць заданні солтыса.

Нядаўна сяляне выбралі новага солтыса — Міхала Дзмітрука. Гэта добры солтыс і напэўна такім будзе далей. Варта ўспомніць яшчэ, што М. Дзмітрук быў удзельнікам баёў за вызваленне краіны ў II сусветнай вайне. Ён ваяваў на фронце.

Пакуль што „старому“ солтысу дзякуй за яго працу, а „новаму“ пажаданні ўсяго найлепшага ў працы.

**Жэня Аўсенюк**

## Пра клопаты выхаваўцаў

У вёсцы Коматаўцы, Беластоцкага павету, вакол будынка даўняй школы ПЗУ арганізаваў зялёны дзяцінец. Кіраўніком была назначана настаўніца з вялікім прафесіянальным стажам і багатым вопытам. Дзецям падабалася гэта форма адпачынку. І здавалася б, усё ішло як трэба, ды не зусім.

У апусцеўшым школьным будынку (школу ў Коматаўцах ліквідавалі) пасялілася бюро сельскагаспадарчага гуртка. Даволі было, каб дзеці мячом ударылі ў сцену, ці мацней закрычалі (а як жа без гэтага быць дзяцінцу), як муж бухгалтара сельгасгуртка пачынаў выкрыкваць і наракаць. Выхаваўца нерваваўся, дзеці таксама. А будынак жа належыць да аддзела асветы ў Беластоку, а не да сельгасгуртка ў Коматаўцах. Дзеці хацелі ў гэтым годзе і ахвотна захочуць у наступныя гады адпачываць і вучыцца ў дзяцінцы. Але трэба мець для гэтага спрыяльныя ўмовы. Здаецца, справядлівай будзе ўвага да аддзела асветы, каб, ліквідуючы малыя школы, не аддаваў будынкаў іншым, а выкарыстоўваў іх для культурнай і асветнай дзейнасці ў вёсцы.

**Эліза**

## Урачыстасць у Шудзялаве

У гадавіну свята адраджэння адбылася ў Шудзялаве ўрачыстая сесія, прысвечаная 30-годдзю ПНР. Заслужаным у грамадскай і гаспадарчай працы былі ўручаны ўзнагароды. Узнагароджаны былі: Браніслаў Крушневіч з Бароўшчыны — добры гаспадар у гміне і актыўны дзеяч ЗСЛ, Міхась Альховіч з Шудзялава — шматгадовы працаўнік гміннай спулдзельні і грамадскі дзеяч, Уладзімір Хомік са Слоі — стары дзеяч рабочага руху і былы член КПЗБ, Яўген Малішэўскі — грамадскі дзеяч. Усе яны атрымалі медаль 30-годдзя ПНР. Многія атрымалі значкі „Грунвальду“ і дыпломы.

На сесіі было вырашана наладзіць павятовыя дажынкі 1974 года ў Шудзялаве, 8 верасня. Рашэнне такое прынята ў сувязі з фактам, што Шудзялаўская гміна мае вялікія дасягненні ў сельскай гаспадарцы. Адным з пунктаў урачыстай сесіі было адкрыццё памятнай табліцы Уладзіміра Хомчыка, які прыняў удзел у дэманстрацыі лясных рабочых і быў расстраляны 4 студзеня 1934 года камендантам паліцыі ў Шудзялаве. Адкрылі дошку Уладзімір Хомік і Сцяпан Мураўскі — удзельнікі той слаўнай дэманстрацыі.

**Т. К.**

## ЧАМУ ТАК?

Вёска Спічкі мае дзве вуліцы. Адна брукаваная, ідзе проста праз вёску ў напрамку Орлі. Другая перасякае першую ў канцы вёскі. На гэтай другой вуліцы жыве 8 гаспадароў. І дзіўная рэч, гэта другая вуліца асвятляецца ўначы „яжэнёвым“ святлом. А галоўная вуліца ў вёсцы не мае такога асвятлення. На стаўбах на гэтай вуліцы не хапае нават лямпачак. Тут бывае цемнавата. А гэта ж цэнтр вёскі. Тут патрэбна добрае святло. На гэтай вуліцы змяшчаецца крама, малачарня, святліца.

Цікава, чаму „яжэнёвага“ святла не праводзяць ва ўсёй вёсцы? Нават не ведаем, чый гэта недагляд.

**Васіль Асеннік**

## Каму лягчэй

Ад студзеня пачалі дзейнічаць у Чаромсе філія ГС і пункт спулдзельчай касы. Гэтыя ўстановы былі арганізаваны з думкай аб сялянах. Яны мелі дапамагаць жыхарам чаромхаўскай гміны афармляць сельскагаспадарчыя і грашовыя справы (пазыкі ў СОП-е). А вось што выйшла. Дагэтуль, як нешта трэба было купіць на ГС-аўскім складзе, ішоў чалавек проста да загадчыка склада, плаціў грошы і ўсё аформіў у адным месцы. Цяпер справа вельмі заблыталася. Каб купіць мяшок мяшанкі, трэба наведаць аж тры пункты: ГС, касу СОП, склад матэрыялаў. А ўсе гэтыя пункты знаходзяцца ў розных месцах, па некалькі сотняў метраў адзін ад другога. Гэта абазначае, што за адным мяшком трэба прайсці каля двух кіламетраў, стаяць тры разы ў чарзе — у ГС-е выпісаць квіт, у СОП-е заплаціць грошы, на складзе забраць тавар. За невялікай дробяззю чалавек траціць здароўе, нервы і час. І гэта мае быць палёгка сялянам? Аб чым думалі прадстаўнікі гандлю? Здаецца, што аб выгадах для сваіх працаўнікоў, а не для сялян.

А мо ўсё ж такі ў Кляшчэлях падумаюць сапраўды аб палёгцы жыхарам Чаромхаўскай гміны!

**Мацейка**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### ПРА СКУПКУ ЯЕК

**Адказвае:**

**Białostockie Zakłady Drobiarskie Zakład Jajczarski w Bielsku Podlaskim.**

Na pismo z dnia 28.06.74 r. oraz załączoną notatkę prasową p.t. „Zjemy i mniejsze”, a dotyczącą skupu jaj wyjaśniamy jak niżej:

Autor notatki skarży się, że punkt skupu jaj w Nowosadach pow. Hajnówka, mimo że kupuje jaja świeże, ma co tydzień zwroty jaj mniej wartościowych, które następnie po kilku dniach zwraca dostawcom.

Na podstawie umowy zlecenia zawartej między Zakładami Drobiarskimi w Białymstoku, a Gminnymi Spółdzielniami w terenie, skupu jaj dokonuje Gminna Spółdz. „Sam. Chłopska” poprzez swoje punkty skupu, a następnie Zakłady Drobiarskie swoim transportem bezpośrednio 2 razy w tygodniu jaja skupione zabierają do swoich magazynów przerobowych, gdzie następuje segregacja i rozliczenie ilościowo-wagowe i jakościowe.

Aparat skupu jaj, angażowany przez Zarządy Gminnych Spółdzielni służbowo i organizacyjnie mu podlega. Skup od producenta i dalszy obrót jajami odbywa się ściśle wg obowiązujących norm resortowych, które obowiązują aparat skupu G. S. i Zakłady Drobiarskie.

Nieprzestrzeganie obowiązujących norm resortowych powoduje dla obydwóch stron poważne konsekwencje w postaci potrąceń finansowych od jaj źle zakupionych nie zgodnie z normą.

By zapobiec ewentualnym skutkom, mogącym powstać na skutek złej interpretacji, względnie nie przestrzeganie obowiązujących norm w skupie jaj, wszyscy skupujący są przeszkoleni w Gminnych Spółdz. i indywidualnie delegowani w Zakładach Jajczarskich.

Każdemu punktowi skupu w ramach ryzyka uznaje się jaja mniejszej wartości do 3%. Zwroty jaj skupującemu dokonuje się tylko po przerobach kontrolnych, które mają być przeprowadzane komisyjnie 2—3 razy w m-cu. Nie zwraca się jaj o uszkodzonej skorupie.

Zwrócone jaja w myśl umowy, muszą być, jako źle skupione, zagospodarowane osobiście przez skupywacza. Nie wolno ich zwracać producentowi.

Dostawy jaj w Gminnej Spółdzielni Hajnówka w okresie 6 m-cy 1974 r. zostały przerobione kontrolnie 6 razy. Punkt skupu w Nowosadach miał zwrotów 5 na ogólną ilość 796 szt., jest to więc procent bardzo nieznaczny zamykający się tylko promilem. Tylko od skupywacza zależne jest, by kupił jaja dobre, zgodne z normą, w ten sposób ustrzeże się przed zwrotami.

Państwowa Komisja Cen ustala w skupie jaj jedną cenę i to za jaja dobre. Innych cen stosować nie wolno.

Zakłady Jajczarskie tytułem uznawania 3% ryzyka w skupie, posiadają aktualnie poważne remanenty jaj mniej wartościowych, które na tut. rynku trudno zbyć, nieznaczną ilość kupują ciastkarnie i piekarnie, odbiorcy pozamiejscowi i zakłady produkcji jaj tego asortymentu pod żadnym pozorem nie przyjmują.

Wyjaśniamy, że Gminne Spółdzielnie „Samopomoc Chłopska”, by uchronić się przed dotkliwymi potrąceniami, wynikającymi ze złego skupu, same zwracają się do Zakładów o częstsze kontrolne przeroby. Jest to jedyny sposób utrzymania surowca w dostatecznej jakości.

Częste zwroty jaj nie są wymysłem Zakładów, by wykorzystać rolników, ale koniecznością, którą narzuca sytuacja rynkowa i finansowa.

Uważamy, że krótkie wyjaśnienie zakładu, pozwoli Redakcji zorientować się ogólnie o wymaganiach w obrocie jajami.

Załączamy wyrazy uznania

**Kierownik**
**Zakładu Jajczarskieg w Bielsku Podl.**
**Franciszek Formanowski**

NIWA 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. TELEFON 2-32-41. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Wydawca RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Indeks 36911.

